# Не спазніцеся з падпіскай на «Народную Волю» на другую палову 2017 года.

№ 49 (4198)

23 чэрвеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна
для "Народнай Волі"

## Чаму Мінск не Хельсінкі

Ужо болей за паўгода з падачы Аляксандра Лукашэнкі беларускія дыпламаты ды блізкія да ўлады каментатары раскручваюць ідэю распачаць у Мінску новы працэс прымірэння між Масквой ды Захадам. Гэтакае другое выданне колішняга Хельсінкскага працэсу.

Хто-кольвек кпіць: ну вось, зноў гаспадар збіраецца каву вёдрамі падносіць важным гасцям. Але калі сур'ёзна, дык тут той выпадак, калі Лукашэнку наўрад ці найважней засвяціцца ў прэстыжнай кампаніі, як тое было падчас саміту нармандскай чацвёркі ў беларускай сталіцы ў лютым 2015 года, калі тутэйшы кіраўнік цісну ў руку м'сье Аланду ды абдорваў кветкамі фрау Меркель. Што да міратворчага пункціка, дык у беларускіх улад працуе не столькі прага папіярыцца, колькі логіка самазахавання. Фішка ў тым, што ніша міратворчасці дапамагае спрытней лавіраваць у міжнароднай сферы, хоць трохі дыстанцыявацца ад вялікадзяржаўнай маскоўскай палітыкі. Ад той жа расійскай вайсковай базы адкарасквацца: вы ж нам ёй увесь міратворчы плён сапсуяце!

Але вось праляцела паўгода рэкламнай кампаніі пад умоўным слоганам "Мінск – новы Хельсінкі" (некаторыя прыўладныя летуценнікі цвердзяць пра "ўсходнееўрапейскую Жэневу"), а Захад па вялікім рахунку і вухам не павёў. Не дапамаглі і рэфрэны пра тое, што Беларусь – донар стабільнасці ў рэгіёне. Чаму ж няма жаданага для беларускіх улад водгуку?

З аднаго боку, відаць, не саспелі для працэсу ключавыя гульцы (у прыватнасці, не спраўдзіліся надзеі Крамля, што новы амерыканскі прэзідэнт Дональд Трамп акажацца сваім хлопцам). З іншага ж боку, каб прэтэндаваць на ролю такой глабальнай міратворчай пляцоўкі, афіцыйнаму Мінску варта было б мець, мякка кажучы, трохі іншы міжнародны імідж. Так, заходнія дзеячы сёння пазбягаюць называць беларускага кіраўніка апошнім дыктатарам Еўропы, але гэта не азначае, што ў нас тут надта рванулі ў кірунку дэмакратыі, павагі да правоў чалавека. Проста "пасля Крыма" для Захаду галаўным болем № 1 стала агрэсіўная палітыка Расіі.

У Еўрасаюзе, НАТО, Вашынгтоне адзначылі тое, што Лукашэнка спрабуе манеўраваць. Але з разам з тым выразна бачаць: Беларусь застаецца ў шалёнай эканамічнай, а значыць – і ў палітычнай, вайскова-стратэгічнай залежнасці ад Крамля. Адсутнасць эканамічных рэформ яшчэ болей прывязвае да расійскіх субсідый, крэдытаў, тамтэйшага рынку збыту.

Што ж да беларускай арміі, то яе Паўночнаатлантычны альянс без варыянтаў трактуе як частку расійскай вайсковай машыны. І прызначаныя на верасень супольныя манеўры "Захад-2017" толькі ўзмацняюць успрыманне Беларусі як вайскова-стратэгічнага плацдарма Крамля. Суседзі – краіны Балтыі, Польшча, Украіна – натапырыліся, трывожацца з нагоды гэтай маштабнай гульні ў салдацікі. І гэта трывога найперш звязана з шокам ад анексіі Крыма, гібрыднай вайны на Данбасе. Расія зноў паўстала ў вачах іншых народаў як ваяўнічая імперыя. А Мінск жа – яе найпершы хаўруснік.

Ну якое тут донарства стабільнасці ў рэгіёне, калі суседзі на вушах, баяцца "зялёных чалавечкаў"! Лукашэнку і самому, магчыма, дыскамфортна, але ён мусіць пераводзіць стрэлкі. Цвердзіць пра размяшчэнне недалёка ад нашых межаў новых кантынгентаў НАТО, пра іх страшныя беспілотнікі ("яны ж найвелізарнейшыя, як сапраўдныя самалёты"). Нібыта не ведаючы, што гэта ўзмацненне (збольшага сімвалічнае) сіл альянсу на ўсходнім флангу стала менавіта адказам на дзеянні Расіі супраць Украіны.

На самай справе ў беларускіх вярхах усё выдатна ведаюць і разумеюць, аднак даводзіцца ставіць пласцінку з фальшывым матывам, бо супраць Масквы хвалю не пагоніш. Масква хоць і стала скупейшая, усё адно пакуль што дае газ са зніжкай, бязмытную нафту, пазыкі на падтрымку спарахнелай "беларускай мадэлі".

Аднак жа і заходнікі не дурні. І яны выдатна прасякаюць гэту сітуацыю хваравітай залежнасці Мінска ад Масквы. Пляцоўкай для перамоў па Данбасе наша сталіца стала паводле збегу абставін (у прыватнасці, па Еўропах сепаратысты надта не паездзілі б). Прычым гэты фармат міратворчасці збольшага вычарпаны. На ролю ж новага Хельсінкі беларускую сталіцу наўрад ці абяруць хаця б таму, што Хельсінкі – сталіца нейтральнай краіны. А Беларусі да нейтральнасці як да Месяца.

Хоць наша дзяржава і мае ў Канстытуцыі запіс пра нейтральнасць як мэту (гэта заслуга яшчэ дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання), за 23 гады прэзідэнцкай эпохі да гэтай мэты мы ні на міліметр не наблізіліся. Наадварот. Гульня ў "братнюю інтэграцыю" аказалася пасткай, з якой цяпер не вырвацца, як ні манеўруй. І рада б беларускае кіраўніцтва ў міратворчы рай, ды грахі хаўрусу з імперыяй не пускаюць.




## З чым звязана падзенне беларускага рубля?

*Некалькі дзён запар вынікі таргоў на Беларускай валютнай фондавай біржы несуцяшальныя для беларускага рубля – ён слабее ў дачыненні да долара і еўра. З чым гэта звязана? І як доўга падзенне рубля будзе працягвацца? За каментарыем мы звярнуліся да эканаміста **Леаніда Злотнікава.***

– Аслабленне беларускага рубля – з'ява не разавая, гэта трывожная тэндэнцыя, – лічыць эканаміст. – І прычын так меркаваць хапае.

Па-першае, беларускі рубель моцна прывязаны да расійскага, а як мы ведаем, прыкладна 40% беларускага экспарту ідзе якраз-такі ў Расію. І разлічваюцца з намі расіяне сваёй валютай. А што зараз адбываецца ў Расіі? Расійскі рубель таксама адступае.

Другі фактар, які ўплывае на аслабленне беларускага рубля, – дэфіцыт валюты ўнутры краіны. Валюта патрэбна Беларусі для разлікаў па знешніх запазычаннях. І тут працуе прынцып рынку: калі нейкага тавару становіцца менш, то яго кошт заканамерна павышаецца. Тое самае і з курсам долара – пры недахопе валюты ён расце. Дарэчы, за апошні год пакупніцкая здольнасць долара ў Беларусі (з мая па май) знізілася на 14%. Што гэта азначае? Гэта азначае, што за 1 долар у Польшчы ці Літве можна купіць больш тавараў, чым у Беларусі. Зразумела, пакуль выгадней траціць валюту там, пакуль у нас, у Беларусі, гэты паказчык не падраўняецца ў параўнанні з краінамі-суседкамі.

Ці прывядуць гэтыя скачкі курсаў да сур'ёзнай дэвальвацыі? Не думаю. Дэвальвацыя можа наступіць толькі ў выпадку беспадстаўнага, эканамічна неабгрунтаванага павышэння зарплат. Мы ўсё гэта ўжо праходзілі. І прайшлі так, што да сёння выкарабкацца не можам…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПРАГНОЗЫ

## За чый кошт папоўняць дзяржаўны «кашалёк»?

*Міністэрства фінансаў знайшло дадатковыя крыніцы папаўнення беларускага бюджэту.*

Намеснік міністра фінансаў **Юрый Селіверстаў** агучыў дадатковыя крыніцы папаўнення беларускага бюджэту. Па яго словах, адной з асноўных крыніц можа быць пашырэнне падатковай базы, уключэнне ў падатковую базу іншых даходаў, адмена льгот, а таксама паляпшэнне рэальнага сектара.

*"Пашырэнне падатковай базы спрацуе толькі ў тым выпадку, калі ў краіне будзе эканамічны рост,* – лічыць кіраўнік праекта "Кошт урада" **Уладзімір КАВАЛКІН**. – *А на гэта Міністэрства фінансаў паўплываць ніякім чынам не можа. Калі ж росту няма, то вялікае пашырэнне падатковай базы малаэфектыўнае. Часткова можа спрацаваць скарачэнне падатковых ільгот, але тут пытанне: якіх менавіта? І каго гэтых ільгот пастараюцца пазбавіць? Калі пазбавяць дзяржаўныя прадпрыемствы, а затым ім жа грошы зноў будуць пераразмяркоўвацца з бюджэту, то які ў гэтым сэнс? Калі мы кажам пра камерцыйныя прадпрыемствы, то яны і так працуюць фактычна без ільгот. Але пазітыў у тым, што хаця б не падвышаюць стаўкі падаткаў".*

Па словах эксперта, акрамя таго, дзяржава будзе цікавіцца тымі людзьмі, якія *"зарабляюць грошы за мяжой, але не сплачваюць падаходны падатак, а таксама, магчыма, звернуць увагу на нейкую дробную прадпрымальніцкую дзейнасць і больш грошай паспрабуюць забраць у ІПэшнікаў".*

**Віктар ШПАК.**

НАПЯРЭДАДНІ

## Такой колькасці высокіх гасцей Беларусь яшчэ не прымала

Як вядома, 5–9 ліпеня ў Мінску будзе праходзіць 26-я летняя сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Лік высокіх гасцей пойдзе на многія сотні. Так, як паведаміў днямі старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Андрэйчанка, ужо зарэгістраваны 593 удзельнікі сесіі з 56 краін.

**Кацярына ХОМЧАНКА.**

СІТУАЦЫЯ

## Што рабіў беларускі самалёт у Літве?

*Учора Міністэрства абароны суседняй краіны заявіла пра паветраны інцыдэнт.*

Было заяўлена, што грамадзянскі самалёт «Ан-2» з Беларусі парушыў паветраную прастору Літвы. Гэта *"было зафіксавана сродкамі назірання за паветранай прасторай ВПС і візуальна"*.

У сваю чаргу Дэпартамент па авіяцыі Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі паведаміў, што пакуль звяраюцца звесткі "сродкаў аб'ектыўнага кантролю" як з беларускага, так і з літоўскага бакоў, але, па некаторай інфармацыі, самалёт выконваў палёт для маніторынгу сельгасугоддзяў.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ЧУЛІ?

## Ладуцька папрасіў прызнаць «Мотавела» банкрутам

Адпаведную заяву гендырэктар ААТ «Мотавела» **Мікалай Ладуцька** перадаў у Эканамічны суд Мінска.

У лісце гаворыцца, што прадпрыемства працуе са стратамі, неплатежаздольнасць «набывае ўстойлівы характар». На 30 красавіка актывы «Мотавела» ацэньвалі ў 60 млн беларускіх рублёў. Страты за I квартал 2017 года склалі 350 тысяч рублёў, за ўвесь 2016-ы – 7,5 мільёна. Уласных абавязацельстваў перад банкамі ў «Мотавела» на 61,3 млн долараў (амаль удвая больш за актывы), яшчэ 700 тысяч рублёў перад бюджэтам і работнікамі. У закладзе ў банкаў – нерухомасць на 88 млн долараў.

99,88% акцый «Мотавела» пасля канфіскацыі акцый у **Аляксандра Мураўёва** (акцыі юрыдычна належалі аўстрыйскаму інвестару), належаць Дзяржаўнаму камітэту маёмасці.

Яшчэ ў красавіку мінскія ўлады планавалі перанесці «Мотавела» ў кітайска-беларускі парк. Але ў чэрвені Мінгарвыканкам ужо прапанаваў аб'явіць «Мотавела» банкрутам і выставіць ягоную зямлю на аўкцыён, а ў кітайскім парку зладзіць новую вытворчасць прадукцыі, аналагічнай мотавелаўскай.

ДИПЛОМАТИЯ

## Беларусь – председатель ЦЕИ

В этом году Беларусь председательствует в Центрально-Европейской инициативе. Вчера в Минске проходила встреча глав МИД стран ЦЕИ. Беларуси важно сотрудничество как с Востоком, так и с Западом, заявил в четверг на встрече с министрами иностранных дел стран Центрально-Европейской инициативы (ЦЕИ) президент республики **Александр Лукашенко.**

Основными темами заседания стали вопросы объединения усилий для сохранения стабильности в регионе, миграции, беженцев. Министр иностранных дел Беларуси **Владимир Макей** убежден, что страны Центрально-Европейской инициативы (ЦЕИ) должны объединиться перед лицом современных вызовов и угроз и с одинаковым уважением относиться ко всем партнерам инициативы. «Сегодня, как никогда, очевидно, что единственный путь, чтобы совладать с ними, лежит через согласованные усилия всех европейских стран. Здесь не место для выборочного диалога, при котором «недостаточно европейские» партнеры отодвигаются или игнорируются», – сказал Макей, открывая встречу.

**Кирилл БУБНОВ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр
ФЕДУТА

## Возвращение «партизан»?

Депутаты Палаты представителей приняли в первом чтении поправки в закон об обороне. Возвращается механизм «мобилизации» – то есть государство получает возможность призыва взрослых людей, уже отслуживших срочную службу, дабы еще раз убедиться в их готовности защитить родину с оружием в руках.

Вероятно, с точки зрения отработки определенных технических навыков – особенно в случае модернизации вооружения – это действительно имеет смысл. Но есть еще один аспект проблемы.

Министр обороны Андрей Равков привел в качестве аргумента необходимости данного решения пример нашей «южной соседки» – Украины. Чтобы во время «ч» не случилось и у нас так, как было у них. Но такая аргументация свидетельствует о том, что генерал чего-то либо не понимает, либо не договаривает.

«У них» случилось «то, что случилось» вовсе не потому, что армия отказалась от мобилизации. Как раз тот факт, что благодаря массовому добровольческому движению украинские вооруженные силы очень быстро смогли остановить агрессию, свидетельствует о готовности украинских граждан, не находившихся на воинской службе, защищать родину. Проблема была в значительной дезориентации офицерского и генеральского корпуса, коррумпированного, распродававшего налево и направо вооружение и никак не готового понять очевидную истину – где находится не условный, а безусловный в данной ситуации противник. Ярче всего это было заметно по ситуации в Крыму, когда на сторону противника перешла значительная часть командования военно-морскими силами Украины. То же наблюдалось и с сотрудниками органов милиции и службы безопасности Украины в Донбассе и том же Крыму: большинство из них никак не ассоциировало себя с Республикой Украиной как суверенным государством, в котором власть может перейти по воле народа из одних в другие руки.

Что же у нас? Известна полемика представителей силовых ведомств Беларуси с независимыми журналистами и оппозиционными политиками, упорно утверждающими: случись у нас ситуация, схожая с украинской (мы сейчас не о Майдане говорим, а об очевидной попытке определенных сил оторвать куски территории государства с целью передачи их под контроль одного из соседей), и значительная часть офицерского корпуса радостно примет это как должное. Министр обороны Беларуси утверждал – достаточно громко, – что такое у нас невозможно. Правда, из его утверждений тоже не следовало, что именно невозможно: невозможна агрессия с той же стороны, что и в случае с Украиной, или же невозможен переход профессиональных белорусских военных и иных силовиков на сторону агрессора? Потому что вне зависимости от «примера южной соседки» отрабатывается сценарий предотвращения агрессии по-прежнему исключительно с запада, а не по всему периметру нашего суверенного государства. И до тех пор, пока у общества нет полной уверенности в том, что готовность защищать суверенитет Беларуси у тех, кому платят за это деньги из государственного бюджета (то есть, деньги налогоплательщиков) не зависит от вектора возможной атаки, – до тех пор такие вопросы будут возникать, а возвращение «мобилизации» как части оборонного механизма будет восприниматься всего лишь как возвращение памятной «партизанщины». То есть взрослых мужиков «призовут на сборы», и уж там они «оторвутся» в полную силу.

Но поскольку в последнем случае «мобилизация» мало повлияет в реальности на обороноспособность страны, очень хотелось бы, чтобы «опыт южной соседки» все-таки учитывался более комплексно. Так сказать, изучался с учетом всех факторов.

УВАГА!

## Газета «Народная Воля» і сайт www.nv-online.info – розныя крыніцы інфармацыі

Шаноўныя сябры!

У чарговы раз нагадваем: папяровы варыянт газеты і сайт www.nv-online.info – гэта сапраўды розныя крыніцы інфармацыі. Матэрыялы, якія друкуюцца ў газеце, не выстаўляюцца ў той жа дзень на сайце, кантэнт якога абмяжоўваецца толькі аператыўнымі падзеямі. Рэдкі выпадак, калі, зыходзячы з надзвычайнай важнасці, нейкі артыкул тут жа з'яўляецца на сайце.

Публікацыі на старонках газеты, заўважым, маюць эксклюзіўны характар. На сайце з'яўляюцца толькі кароткія, у некалькі сказаў, анонсы на некаторыя з іх. Прачытаць поўнасцю той ці іншы цікавы, часам сенсацыйны матэрыял могуць толькі падпісчыкі газеты альбо тыя, хто набывае свежыя нумары ў шапіках "Белсаюздруку". На сайце ў раздзеле "Архіў" яны могуць з'явіцца праз 12–14 дзён. А гэта ўжо не ўяўляе той цікавасці, той актуальнасці, якую маюць вострыя публікацыі ў свежых нумарах газеты.

Вось чаму рэдакцыя раіць Вам, шаноўныя наведвальнікі нашага сайта, адначасова быць падпісчыкамі "Народнай Волі".

Цяжкасці з фінансамі? Можаце падпісацца не на паўгоддзе, а на месяц, два, квартал. У Вас застаецца магчымасць у любы дзень прадоўжыць падпіску. Каб, скажам, атрымліваць газету "Народная Воля" з 1 ліпеня, Вам трэба завітаць на пошту і афарміць падпіску **да 28 чэрвеня.** Не спазніцеся!

АСОБА

# ГІТАРЫСТ

Павел Кухта – музыкант унікальны. У свае 32 гады – самы вядомы беларускі гітарыст у свеце і адзін з самых тытулаваных салістаў нашай філармоніі. Многія яго конкурсныя перамогі станавіліся сапраўднай сенсацыяй у музычным свеце. Напрыклад, Міжнародны конкурс Гітарнай асацыяцыі Амерыкі GFA: заняць там места – усё роўна што зляцаць у космас. Дарэчы, Кухта першы і пакуль што адзіны беларускі гітарыст, якому скарылася гэтая музычная вышыня.

**– Паша, ёсць конкурсы, дзе вы яшчэ не бывалі?**

– Ёсць, праўда, на самых прэстыжных я ўжо выступаў. Але конкурсная тэма для мяне яшчэ актуальная. Чым больш ездзіш, тым больш у цябе магчымасцяў, сувязяў, прапаноў. Скажам, на конкурсе ў Германіі я выйграў запіс дыска на лэйбле Naxos. У сферы класічнай музыкі ён адзін з самых вядомых і прэстыжных. У Канадзе за два дні мы зрабілі альбом, які я, у прынцыпе, задаволены. Дарэчы, на гэтым лэйбле не запісваўся яшчэ ні адзін беларус.

**– Скажыце, калі ласка, чым вас так вабіць спаборніцтва ў музыцы?**

– Проста гэта яшчэ адна магчымасць даказаць сабе, што ты ў форме. Што ты можаш развівацца, іграць новую праграму. Ды і ўвогуле, трэба ездзіць, ведаць, што адбываецца навокал, параўноўваць сябе. Калі чалавек аб'ектыўны і адэкватны, ад конкурсу ён атрымае толькі станоўчы эфект, незалежна ад выніку.

**– А ці заўсёды вынік справядлівы?**

– Нюансы, канешне, ёсць. Немалаважна, у каго ты вучышся. Вельмі важна, хто сядзіць у камісіі. Калі твор, з якім ты выступаеш, іграе хто-небудзь з журы – лічы, што шанцаў на перамогу ноль. Табе проста не дадуць прайсці ў наступны тур, ты заўсёды будзеш іграць не так, як гэта робіць той, хто ставіць табе адзнаку. Таму несправядлівасць, вядома, ёсць. Ды і, у прынцыпе, конкурс – гэта фартуна. У мяне таксама здараліся чорныя перыяды, пралятаў раз за разам. Але рукі ніколі не апускаў.

### Беларусь без… гітарнага руху

**– З такім досведам няўжо не думалі рэалізаваць які-небудзь цікавы праект дома, у Беларусі?**

– Такія думкі былі і ёсць. Але пакуль што я толькі спрабую сябе ў "арганізатарскім" жанры, абрастаю сувязямі, назапашваю вопыт. Сапраўды, гітарных конкурсаў у Беларусі вельмі мала, а сур'ёзнага спаборніцтва міжнароднага ўзроўню ўвогуле няма, і гэта вялікая праблема. У той жа Польшчы ледзь не ў кожным горадзе ёсць гітарны фестываль ці конкурс…

**– Многія нашы таленавітыя музыканты едуць вучыцца за мяжу… Дарэчы, вы гэтага не зрабілі. Чаму?**

– У нашай Акадэміі музыкі я вучыўся ў Яўгена Грыдзюшкі. Паверце, гэта педагог як мінімум еўрапейскага ўзроўню. Тым больш ніхто мне не забараняў ездзіць на замежныя курсы і майстар-класы. Ну а чаму я пасля вучобы не з'ехаў? Ведаеце, калі я кажу сваім еўрапейскім калегам, што працую салістам дзяржаўнай філармоніі, яны страшна здзіўляюцца. На Захадзе гітарысты могуць пра гэта толькі марыць. Вы ж, напэўна, ніколі не сустракалі гітарыста-саліста Берлінскай ці Венскай філармоніі?

### Мама – самы строгі крытык

**– Павел, кажуць, што раяль – кароль інструментаў, скрыпка – каралева. А гітара?**

– Прынцэса! І вельмі, дарэчы, капрызная. Яна не даруе тым, хто мала займаецца і мала думае. На гітары немагчыма схавацца за эфектныя позы. Галоўнае – сутнасць. Дарэчы, менавіта таму я люблю слухаць сталых музыкантаў. Гэта абсалютна іншы ўзровень мыслення і інтэлектуальнага развіцця.

**– Якія ў дзяцінстве былі створаны ўмовы, каб ваш талент раскрыўся?**

– Думаю, што ўсё ідзе ад сям'і. Мая мама – прафесійны музыкант. Яна і адвяла мяне ў музычную школу. Далей, вядома, былі педагогі, якія зацікавілі, але ўсё роўна, бацькоўскае атачэнне вельмі важна. Мама, дарэчы, самы строгі крытык. Заўсёды хваліюся, калі яна прыходзіць на мае канцэрты.

**– А дзяцінства ў вас было?**

– Вы пра гэтыя страшылкі, калі бацькі прымушаюць сваіх дзяцей займацца па 10 гадзін у суткі? Не, дзякуй Богу, дзяцінства ў мяне ніхто не забіраў. Я быў звычайным дзіцём і толькі пазней, у юнацтве, калі свядома вырашыў стаць музыкантам, выпаў з рэальнага жыцця. Для мяне існавала толькі гітара.

**– Сёння вы не толькі выступаеце, але і выкладаеце. Як вам роля настаўніка?**

– Данесці да вучня сваю думку і займець з гэтага нейкія вынікі вельмі няпроста. Некаторы час я выкладаў у Музычным каледжы Глінкі, цяпер працую пераважна з дзецьмі, у школе. Для мяне гэта новы досвед. Прыемна ў нейкім сэнсе пачынаць з нуля, а не выпраўляць чужыя педагагічныя памылкі.

### Праблем з суседзямі пакуль не было

**– Паша, а колькі трэба займацца музыканту вашага ўзроўню?**

– Зараз я іграю мінімум чатыры гадзіны ў дзень. Увогуле, усё вельмі індывідуальна. Аднаму будзе дастаткова і дзвюх гадзін, а другому не хопіць і пяці, каб камфортна адчуваць сябе на сцэне.



**– Вялікая музыка – як вялікі спорт. Вы ж амаль усе з прафесійнымі захворваннямі…**

– Практычна ўсе гітарысты маюць сур'ёзныя праблемы са спінай. Але самае страшнае, калі пачынаюцца праблемы з рукамі. Тады можна развітацца з прафесіяй. Я ведаю некалькі такіх прыкладаў, і гэта, канешне, трагедыя.

**– Колькі ў вас зараз гітар?**

– У мяне некалькі інструментаў, але "ў рабоце" пераважна дзве гітары. Адна – фабрычная, з Аўстраліі. Другая – польскага майстра. Вельмі важна, каб у прафесійнага музыканта быў не адзін інструмент. Бывае, што вуха "замыльваецца", з'яўляецца нейкі дыскамфорт. Тады толькі адна парада – памяняць гітару.

**– Але сёння для некаторых добры інструмент – недасяжная мара…**

– Думаю, многія мае калегі памятаюць, як іх бацькі збіралі грошы на першы прафесійны інструмент. І ўсё ж такі нармальную гітару пажадана мець з дзяцінства, трэба адразу прывыкаць да добрага гуку, а не змагацца з кітайскім ДСП. Вядома, ёсць інструменты і па 20, і па 30 тысяч долараў. Але гэта нейкая фантастыка. На цалкам нармальную гітару кошты пачынаюцца прыкладна ад пяці тысяч еўра. Дарэчы, знайсці свой інструмент нават сярод дарагіх – вялікая ўдача.

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**

ВЕРНИСАЖ

## Летающий фотограф

Гродненский фотохудожник Александр Лосминский открыл персональную выставку в Москве, в Деловом и культурном комплексе посольства Беларуси. Он представил публике 50 фотографий – «Гродненская земля с высоты птичьего полета». Этот проект занял у мастера семь лет жизни.

Наш белорусский пейзаж не бросок: квадраты полей, спокойные русла рек, ровные стрелы дорог, обсаженных старыми-престарыми березами. Но если подняться в небо, открывается иная, может быть, истинная красота земли. Гродненский фотохудожник Александр Лосминский совершил 21 воздушный полет, чтобы снять пейзажи родной Гродненщины. «Мой воздушный архив – моя гордость. Несколько лет я искал любую возможность, чтобы снимать с воздуха: у меня был план облететь все самые интересные уголки Гродненщины и запечатлеть на камеру 17 неповторимых чудес – столько в нашей области районов с их памятниками архитектуры и природными красотами», – признается фотомастер.

Александр Лосминский – автор более 20 книг и альбомов. Он руководит народным фотоклубом Гродно.

**Елена КИРЕЕВА.**

РЭГІЁН

## Курсы кітайскай мовы з'явяцца ў Полацку

*Заняткі будуць праходзіць на базе мясцовага ўніверсітэта.*

Паміж Полацкім дзяржаўным універсітэтам і Інстытутам Канфуцыя (Ханьбань) падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве. У рамках дамоўленасцей у ПДУ пачнуць выкладаць кітайскую мову.

Заняткі будуць праводзіць педагогі з Кітая.

*– У першы год працы цана курсаў складзе 140 рублёў за семестр,* – паведамілі «Народнай Волі» ў ПДУ. – *Для супрацоўнікаў і студэнтаў універсітэта прадугледжана зніжка – 25 працэнтаў. Заняткі плануюць праводзіць 2 разы на тыдзень па тры акадэмічныя гадзіны. Цяпер мы фарміруем спісы жадаючых навучацца.*

Курсы кітайскай мовы пачнуць працу з 1 кастрычніка.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

## Матацыкліст, які разбіўся ў Наваполацку, неаднаразова парушаў ПДР

Пра гэтую жудасную аварыю напачатку тыдня паведамалі амаль усе СМІ. І, безумоўна, многія спачувалі: загінуў малады, 30-гадовы Аляксей Давідаў, работнік наваполацкага НПЗ. Недарэчная смерць. Асірацелыя бацькі…

Але ж пасля ДТЗ, а кіроўца страціў кантроль над матацыклам «Хонда» на Т-вобразным перакрыжаванні і і ўрэзаўся ў сцяну завода «Палімір», высветлілася, што хуткасць матацыкла была значна перавышаная. Больш за тое, падчас разбіральніцтва стала вядома, што кіроўца каля 30 разоў прыцягваўся да адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху, сярод якіх ёсць і перавышэнне хуткасці, а яго матацыкл быў без тэхагляду.

**Васіль КОРЗУН.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# «Без веры хваробу не пераможаш…»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пабываў у гасцях у 84-гадовай **Яўгеніі Паўлаўны ДЗЕНІСЕВІЧ**, якая ўжо больш за 40 гадоў лечыць людзей малітвамі.*

…Дом Яўгеніі Паўлаўны знаходзіцца на ўскраіне Мінска. Па дамоўленасці мяне чакае яна і яе сваячка, якая часам дапамагае даглядаць за сталай жанчынай. Адзін з пакояў нагадвае міні-царкву – крыж ад падлогі да столі, паўсюль на сценах іконы, алтар для малітваў. У пакойчыку, дзе мы размаўляем, таксама – іконы, святая вада, царкоўныя кнігі. Убачыўшы фотаапарат, бабуля адразу папярэджвае: "Фатаграфаваць мяне нельга, боская ласка сыдзе". І пачынае з успамінаў пра дзяцінства…

– Нарадзілася я ў вёсцы Куляшы Івацэвіцкага раёна, у мамы было чацвёра дзяцей. Я – самая старэйшая. З пяці гадоў пачала хадзіць у храм. Царква знаходзілася за тры кіламетры ад нашай вёскі, але нават гэта мяне не спыняла. Туды памаліцца пастаянна наведваўся дзед Навум, вось я, малая, з тым дзедам і яшчэ адной бабуляй пастаянна і хадзіла на службу. Гэта нават не ад бацькоў пайшло, а неяк само па сабе здарылася. Цягнула мяне да Бога. І ў мяне быў вялікі гонар, калі бацька мяне на кані з царквы сустракаў. Памятаю, у нашай вёсцы была бабка Воля, яе аднойчы так да зямлі прыгнула, што дыхаць не магла. А пасля схадзіла з намі, памалілася, як струначка стала. І з той пары яна ніводнай службы ў нядзелю не прапускала.

**– Бацюшка добры быў?**

– Ой, добры, нават бясаў выганяў. Аднойчы лячыў аднаго мужчыну, дык нячысты дух аж дзверы ў храме вырваў. Во была сіла! І мяне ён вучыў дабру і любові да Госпада, я на прычасці заўсёды да яго першая стаяла. А ён называў мяне, як і іншых дзяцей, Божым анёлам. І так гэта ўсё ў памяці добра адклалася. Сёння мне 85 гадоў, а той час бачу, як сёння.

**– У школу хадзілі і разам з гэтым царкву наведвалі?**

– Якая там школа, калі ў нас нават сшыткаў не было?! Неяк два класы адвучылася, але ў мяне было больш духоўнае навучанне. І граматай сама па сабе аваладала. Куды там пра школу было думаць, калі паесці не было чаго? Ходзіш з торбай цэлымі днямі, збіраеш шчаўе, крапіву альбо лебяду, каб зусім з голаду не памерці. Хлеба нават блізка не бачылі. Пасля ўжо, калі карову купілі, крыху аджылі, але ж у хуткім часе і вайна пачалася. Як пачнуць бамбіць, не ведаеш, куды хавацца. Днём паліцаі і немцы тэрарызіравалі, а ноччу – партызаны. Ад апошніх нічога не схаваеш – усё знойдуць і забяруць. Вось такое было жыццё! Уяўляеце, як маме даводзілася складана ў вайну з чатырма дзецьмі на руках?! Самы малодшы мой брат нарадзіўся якраз перад вайной, у 1940 годзе. А тата наш на фронце загінуў, зусім малады быў… Заставалася дома толькі маліцца, чыталі Багародзіцу на каленях, каб ліха абышло бокам.

Дарэчы, выжыць у вайну нам дапамог яшчэ і мой дзядуля Іван. Яго бацька быў немцам, а таму дзед добра ведаў нямецкую мову. І, калі акупанты з'яўляліся ў вёсцы, дзед з імі нешта гергетаў, і немцы нас не чапалі. Ён ратаваў усіх! Жартавалі нават: "Іван, твае сябры прыехалі на гутарку, ідзі хучэй да іх…"

**– Яўгенія Паўлаўна, а як склалася жыццё пасля вайны?**

– Як выраслі, то ўсе дзеці пайшлі свой хлеб зарабляць. Я ездзіла на заробкі на Урал, але затым вярнулася ў Мінск і працавала на МАЗе слесарам-зборшчыкам, у ліцейным цаху… Мой дзядзька з жонкай былі бяздзетнымі, а таму ў іх першы час і жыла. Выйшла замуж, траіх сыноў нарадзіла. Муж, да слова, быў катэгарычна супраць таго, каб я прымала людзей і лячыла іх, сам быў бязбожнікам. Яго больш цікавілі, прабачце, бабы, а не царква.

У 1980-я гады ён нават выклікаў на мяне міліцыянераў, тыя разам з нейкімі ці то дэпутатамі, ці то партыйнымі дзеячамі прыйшлі. Пытаюцца: "Чым вы займаецеся?" – "Малюся, – адказваю, – вось і ўсё". Там ужо машыну міліцэйскую да дому падагналі, заставалася толькі кайданкі накінуць на мяне. Але дзякуй аднаму маёру міліцыі, заступіўся. Кажа: "Таварышы, медыцына ў нас перапалохі альбо рожы лечыць? Не. А калі ў чалавека атрымліваецца дапамагаць іншым, то што ў гэтым дрэннага?" Адным словам, адчапіліся. А затым той самы міліцыянер паклікаў мяне ў бок і дадаў: "Мой дзед лечыць гэтак жа…"

**– А калі вы адчулі, што ў вас маецца нейкая здольнасць дапамагаць людзям?**

– У 43 гады мне гэта Маці Божая ўва сне прадказала. У той час я сама моцна захварэла, пачала лячыць сябе малітвамі, і Гасподзь мяне падняў. А ноччу голас мне сказаў: "Ратуй народ, ты шмат людзей выратуеш". Вось з таго часу і дапамагаю, чым магу.

Я ж не давала ніякія абвесткі, усё неяк само па сабе атрымлівалася. Аднаму дапамагла – той іншаму распавёў. Памятаю, калі на аўтазаводзе працавала, перапынку ў мяне ніколі не было. Нават паесці не было часу, чарга стаяла за дапамогай. Але заўсёды папярэджвала: "Маліцеся і спадзявайцеся на лепшае. Мне Бог дапамог, а вам не ведаю, ці дапаможа. Але верыць трэба".

**– З чым да вас звычайна звяртаюцца людзі?**

– Памятаю, з Калінінграда мне прывезлі 7-гадовую дзяўчынку, якая не гаварыла. Я перад іконай на каленях прасіла Бога, каб той адкрыў дзяўчынцы вусны, сям'я некалькі разоў прыязджала. І аднойчы гэтая дзяўчынка зайшла са сваёй маці ў хату і сказала мне: "Бабуля, я размаўляю, у школу хутка пайду". Вы не паверыце, я плакала, як тое дзіця. Слёзы ў мяне ліліся ракой, і я іх не саромелася…

Было шмат і іншых выпадкаў. У адной жанчыны было цяжкае захворванне, але пасля малітваў хвароба знікла. Нехта, магчыма, падумае, што такога быць не можа, што гэта выпадковае супадзенне, але я ні з кім спрачацца не буду. Не важна, што дапамагло чалавеку. Галоўнае – ён вылечыўся. Але адно ведаю – без веры не пераможаш.

**– Вы лечыце толькі малітвамі?**

– Так, толькі сваімі словамі прашу Госпада дапамагчы. Мой духоўны настаўнік – архімандрыт Давід, які быў настаяцелем Вільнюскага Прачысценскага сабора. Падчас сустрэчы ён мяне благаславіў і сказаў: "Прымай людзей па магчымасці, дапамагай ім". І тыя ідуць і ідуць. Калі мяне саму сэрца прыхапіла, то некаторыя знайшлі нават у бальніцы і спрабавалі прарвацца ў рэанімацыю. Дарэчы, я сама сабе дыягназы стаўлю. Ведаю, што ўсе мае хвробы – гэта не ад Бога, а больш ад зайздрасці і злых людзей. Я зараз знаходжуся на 2-й групе, а вось першую чамусьці адмаўляюцца даваць. Пісала з гэтай нагоды ліст у Міністэрства аховы здароўя, магчыма, вырашыцца гэтае пытанне…



Увогуле, зараз няма ўжо ў мяне ранейшага здароўя, не хапае сіл, таму амаль нікога не прымаю. Але ўсё роўна прыязджаюць, пералазяць праз плот і крычаць у акно: "Дапамажыце!" І як тут адмовіш, калі здалёк з малымі дзеткамі за дапамогай прыязджаюць.

**– Магчыма, прыходзяць і такія, хто хоча, што называецца, навесці порчу на кагосьці?**

– Такім я адразу паказваю на выхад і даю ім толькі адну параду: "Ідзіце і маліцеся, тады ўсё ў вас будзе добра". А некаму зла жадаць – гэта самая апошняя справа.

**– А ў вас ёсць свае вучні, хацелі б некаму перадаць свой дар?**

– Я ні ў каго гэты дар не брала. Калі Гасподзь некага ўпадабае, то і сам яго блаславіць. Хаця цётка майго бацькі таксама ратавала людзей, можа, нешта і ад яе перадалося?

..На развітанне жадаю Яўгеніі Паўлаўне моцы духу і здароўя. "З Богам!" – кажа ўслед яна.

**Алесь СІВЫ.**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Намеснік галоўнага рэдактара Марыя Станіславаўна ЭЙСМАНТ




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 15.06.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 2071.